## II МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ЗАМЕЖНЫХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ
### (г. Кракаў, Польшча, 12—15 верасня 2012 г.)

Міжнародны навауковы кангрэс замежных даследчыкаў гісторыі Польшчы быў прысвечаны 100-годдзю Кракаўскага аддзялення Польскага гістарычнага таварыства, якое, як і пяць гадоў таму, выступіла арганізатарам мерапрыемства. У працы II Кангрэса прымалі ўдзел прафесійныя даследчыкі з Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Балгарыі, Германіі, Францыі, ЗША, Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Японіі і іншых краін, студэнты і навучэнцы школ (апошнія атрымалі ўзнагароды за лепшыя працы, дасланыя на спецыяльна арганізаваны конкурс для вучняў), аматары гісторыі.

Як і ў папярэдні раз падчас урачыстага адкрыцця мерапрыемства былі агучаны вынікі конкурсу Польскага гістарычнага таварыства «Pro Historia Polonorum» за лепшую кнігу па гісторыі Польшчы, выдадзеную на замежнай мове. Сярод намінантаў былі расіяне М. Далбінаў і М. Пятроў, балгарын В. Мігеў, немцы Д. Шэнк і К. Мік, француз Ф. Дэсберг, украінец Я. Федарук і амерыканцы А. Палонскі і Л. Вульф. У гэтым годзе галоўная ўзнагарода — статуэтка Гала Ананіма — была ўручана Антонію Палонскаму за трохтомную працу «Яўрэі ў Польшчы і Расіі». Расійская даследчыца Н. Лебедзева, вядомая сваімі публікацыямі па «Катынскай справе», атрымала ўзнагароду за сукупнасць дзейнасці.

Яшчэ напярэдадні афіцыйнага адкрыцця Кангрэса працу пачалі дактаранцкія форумы і дыскусійныя панэлі, на якія былі вынесены праблемы Сярэднявечча («Пантэон святых патронаў: Польшча і яе суседзі ў Сярэднявеччы»), Новага часу («Полікультурнасць Рэчы Паспалітай XVI—XVIII стст.: дзяржава і людзі» і «Аблічча мадэрнізацыі дзевятнаццатага стагоддзя: Польшча і яе суседзі. Вывучэнне кейсаў»), XX стагоддзя («Польскі досвед таталітарызмаў XX ст. на фоне адчування іншых цэнтральнаеўрапейскіх народаў — агульнае і адметнае ў досведзе»).

Кожны дзень Кангрэса быў насычаным, бо адначасова працавалі некалькі секцый і дыскусійных панэляў. Пабываць на ўсіх было немагчыма. Сярод праблем, якія абмяркоўваліся ў першы афіцыйны дзень сустрэчы, былі «Будучыня краін Вышаградскай групы», «Што такое Цэнтральная Еўропа? Вывучэнне паняцця», «Гісторыя Польшчы ў замежных падручніках па гісторыі», «Звычайны і святочны рытм штодзённасці малога горада ў Польшчы. Перспектыва працягласці і змен», «Польскія яўрэі і польска-яўрэйскія адносіны ў сучаснай гістарыяграфіі». Акрамя гэтага працавалі дыскусійныя клубы «Старажытнасць. Германскія народы ў Цэнтральнай Еўропе. Гістарычныя і археалагічныя даследаванні. Сведчанне і традыцыя ў пазнейшы час», «Перыферыі гісторыі? Мікрагісторыя — гендэр — вусная гісторыя», «Спадчына і памяць». На сесіі «Гісторыя Польшчы ў замежных падручніках па гісторыі» былі прад-

стаўлены матэрыялы, якія адлюстроўвалі падыходы нямецкай, французскай, чэшскай, славацкай, беларускай, літоўскай і расійскай сістэм адукацыі да выкладання польскай гісторыі. З вялікай прыкрасцю некаторыя даследчыкі канстатавалі, што ў іх нацыянальных падручніках яна згадваецца альбо фрагментарна, з некаторымі нават памылкамі, альбо тэндэнцыйна. Апошняя акалічнасць характэрна для тых краін, якія на розных этапах свайго развіцця мелі не заўсёды добрыя міждзяржаўныя адносіны (у першую чаргу гэта датычыцца Расіі, Беларусі, Літвы), што адбіваецца і на сучасным успрыманні суседняй дзяржавы.

На другі дзень навуковай сустрэчы прысутныя даследчыкі змаглі пабываць на прымеркаваным да працы Кангрэса Кірмашы гістарычных кніжак, дзе былі прадстаўлены вядучыя навуковыя і навукова-папулярныя выданні Польшчы. Аднак наведванне гэтага мерапрыемства адбывалася пераважна падчас перапынку ў працы секцый. У гэты дзень абмяркоўваліся праблемы гістарыяграфіі («Палякі і іх суседзі ў Цэнтральнай Еўропе — палітычныя адносіны і іх адлюстраванне ў гістарыяграфіі»), ролі хрысціянства ў Рэчы Паспалітай, развіцця культуры і інш.

Асобная сесія была прысвечана прэзентацыі месца сучаснай Польшчы ў рэгіёне і свеце («Месца сучаснай Польшчы ў рэгіёне і свеце. Дасягненні апошніх дэкад і выклікі будучага»). З дакладамі выступілі І. Яжбароўская («Успрыняцце Польшчы ў Расіі пасля 1989 г.»), Ф. Дэсберг («Французская гістарычная навука і паліталогія пра Польшчу ў Еўропе», П.-Ф. Вэбер («Дзяржава і памяць у Польшчы і Францыі. Змены ў еўрапейскай культуры памяці пасля 1989 г.»), У. Акана («Катынь. Успрыманне злачынства ў Японіі»), Я. Грыцак («Перамены ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе з украінскай перспектывы»), І. Баева («Роля Польшчы ў эрозіі савецкай мадэлі сацыялізму ва Усходняй Еўропе»). Прадстаўленыя даклады выклікалі жывую дыскусію, якая паказала разыходжанні ва ўспрыманні прысутных дасягненняў нацыянальных гістарыяграфій па польскім пытанні.

У апошні дзень Кангрэса працягвалася інтэнсіўная праца: праходзілі пасяджэнні секцый, на якіх разглядаліся пытанні міграцыі насельніцтва, інструменты дзяржаўнай экспансіі ў Цэнтральнай Еўропе, развіццё культуры пасля Другой сусветнай вайны, выкарыстанне інтэрнэта ў вывучэнні гісторыі, і адбывалася прэзентацыя цэнтраў і арганізацый, якія аказваюць падтрымку ў правядзенні даследаванняў па гісторыі Польшчы і Цэнтральнай Еўропы.

Аналізуючы перамены, якія адбыліся ў арганізацыі Кангрэса ў 2007 і 2012 гг., варта адзначыць, што апошняе спатканне характарызавалася большай тэматычнай разнастайнасцю і арыентаванасцю на сучасныя напрамкі ў развіцці гістарычных даследаванняў. Выказаныя падчас выступленняў і ў ходзе дыскусій меркаванні выклікалі розную рэакцыю аўдыторыі, тым не менш можна з упэўненасцю казаць, што атрыманая падчас Кангрэса інфармацыя будзе ў той ці іншай ступені выкарыстана як у будучых даследаваннях па гісторыі Польшчы, так і ў навучальным працэсе.

**Л. А. Козік,** дацэнт кафедры паўднёвых і заходніх славян
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта